*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◆ 40(148) ◆ 6 кастрычніка 1993 г. ◆ Кошт — 5 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



*На праведзенай рабочай нарадзе прадстаўнікоў апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце абмяркоўваліся пытанні ў сувязі з маючай адбыцца асенняй сесіяй парламента. Сярод іх — перспектывы стварэння кааліцыйнага ўрада.*

◆

ФЕДЭРАЦЫЯЙ ПРАФСАЮЗАЎ БЕЛАРУСІ САБРАНА ЎЖО БОЛЬШ ЗА ПАЎМІЛЬЕНА ПОДПІСАЎ ЗА ДАТЭРМІНОВЫЯ ВЫБАРЫ ПАРЛАМЕНТА. Хочацца верыць, што ФПБ зможа зрабіць тое, што не ўдалося зрабіць БНФ, сабраўшы больш за 400 тысяч подпісаў.

◆

*ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ЗБЯРЭЦЦА ТОЛЬКІ 9 ЛІСТАПАДА. Відаць, многім дэпутатам гэта якраз і трэба, бо да таго часу павінна праясніцца сітуацыя, якая склалася ў Расіі, і будзе зразумела, ставіць пытанне аб зняцці Старшыні Вярхоўнага Савета ці не.*

◆

1 кастрычніка ў Беларускім інстытуце праблем культуры пачаўся навучальны год, дзе ўпершыню ў краіне пачалася падрыхтоўка спецыялістаў-кінадраматургаў, якіх раней рыхтавалі ў Маскве.

◆

*На пасяджэнні калегіі Міністэрства інфармацыі абмеркавана пытанне «Аб ходзе выканання Закона «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» калектывамі прадпрыемстваў «Белсаюздруку» і рэспубліканскай фірмай «Белкніга». Калегія прызнала дзейнасць гэтых арганізацый па выкананні Закона аб мовах і Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларусі недастатковай.*

◆

*МЕНСКІ ГАРВЫКАНКАМ ДАЎ РАСПАРАДЖЭННЕ перакласці на беларускую мову ўсе шыльды ўстаноў, арганізацый, прадпрыемстваў, фірмаў і іншыя інфармацыйныя надпісы ў горадзе і ўстанавіць іх да 1 снежня гэтага года. А ў цэнтры Менска замена шыльдаў і надпісаў павінна была прайсці да 1 верасня. Але перамен амаль нябачна.*

◆

У БЕЛАРУСІ ЎПЕРШЫНЮ РЫХТУЕЦЦА ДА ВЫДАННЯ грунтоўная ветэрынарная энцыклапедыя на беларускай мове.

◆

ЗА ПАДРЫХТОЎКУ МЕТАДЫЧНАГА ДАПАМОЖНІКА па вывучэнні гісторыі Беларусі для сярэдніх школ узялася ў Магілёўскай вобласці ініцыятыўная група.

◆

*У КІЁСКАХ «САЮЗДРУКУ» з'явілася новая газета «Панарама». Штотыднёвік адрасуецца будаўнікам, архітэктарам, праекціроўшчыкам. На жаль, беларускасці ў газеце мала.*

## *Жыве беларуская вайсковая слава*

**Падзеі XVI стагоддзя займаюць асобнае месца ў гісторыі нашага народа. У той час маладое Маскоўскае царства пачало збройную экспансію на захад, імкнучыся далучыць да сябе землі дзяржавы нашых продкаў — Вялікага княства Літоўскага. Рускага і Жамойцкага. Вайна вялася з пераменным поспехам, але бітва, што адбылася пад Воршай 8 верасня 1514 года, на доўгі час спыніла варожае нашэсце з усходу на Беларусь. Але нават сёння наша расколатае ідэалогіяй грамадства ўспрымае мінулае неадназначна. Для адных падзеі амаль пяцісотгадовай даўніны ёсць сімвал збройнай барацьбы беларускай дзяржавы за сваю незалежнасць, другія ж успрымаюць вяртанне гістарычнай памяці народа як акцыю варожасці да суседняй Расіі, ды рускіх наогул.**

**Слушнасць тых ці іншых поглядаў дазволіла вызначыць акцыя святкавання 479-х угодкаў перамогі пад Воршай, праведзеная 8 верасня ў Менску. Яе арганізатары і ўдзельнікі здолелі паказаць усім: патрыятызм беларусаў далёкі ад шавінізму, а шанаванне сваёй гісторыі не мае нічога агульнага са спробамі распаліць міжнацыянальную варожасць.**

**У гэты дзень на пляцы ля опернага тэатра панаваў настрой свята — свята вяртання народу ягонай годнасці, свята новай Беларусі.**

**У. ПАНАДА.**






Усклаўшы вянкі да помніка Перамогі, удзельнікі Беларускага згуртавання вайскоўцаў прайшлі маршам ад плошчы Перамогі да опернага тэатра.
Гучаць беларускія абрадавыя песні.

Фота аўтара.

## Свята ў Магілёве

*Нягледзячы на супрацьдзеянне афіцыйных улад, у Магілёве быў урачыста адзначаны Дзень беларускай вайсковай славы.*

*8 верасня патрыятычна настроеныя магілёўцы сабраліся на адкрытай пляцоўцы перад Палацам школьнікаў для прыняцця грамадзянскай прысягі на вернасць Беларусі і яе народа. Ім не здолелі перашкодзіць прысягаць супрацоўнікі міліцыі і «людзі ў цывільным». Магілёўцы таксама не дазволілі затрымаць дэпутата гарсавета, старшыню Магілёўскай філіі БНФ Анатоля Фёдарава. Акт прыняцця грамадзянскай прысягі адбыўся.*

*Дзіўная ўвогуле становішча склалася на Беларусі. Сапраўдныя патрыёты сваёй Радзімы лічацца на Бацькаўшчыне ворагамі, людзьмі, якія ўяўляюць небяспеку. І гэта як быццам у незалежнай (суверэннай) дзяржаве!*

*Пасля грамадзянскай прысягі на пляцы гучалі беларускія песні ў выкананні магілёўскіх бардаў Ігара Мухіна-Рабянка і Сержука Кулягіна.*

*Да Дня беларускай вайсковай славы была прымеркавана таксама прэзентацыя гісторыка-публіцыстычнага фільма «Магілёў», створанага па замове фонду адраджэння тэатра і культурнай спадчыны Магілёва творчай групай Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра (рэжысёр Уладзімір Колас, аўтар сцэнарыя Юрась Чудзін). У непрацяглым фільме (30 хвілін) аўтары здолелі паказаць слаўныя і ў той жа час трагічныя лёс горада над Дняпром.*

Юрась ПІВУНОЎ,
дырэктар Магілёўскай філіі Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра.



✦✦✦

Генадзь Шэлег працуе ў Менскім аўтапарку № 6. Яму 29 гадоў, жанаты, мае двух дзяцей. Кваліфікацыя – шафёр першага класа. Палітыкай ці грамадскімі справамі ён, як і большасць работнікаў, цікавіцца мала. Вызначаецца адным: аб'явы прыпынкаў падчас працы на маршруце робіць па-беларуску.

Ён — адзін з тых, хто, нарадзіўшыся ў вёсцы і скончыўшы там беларускую школу, прыехаў у вялікі горад і застаўся там. Іх мільёны — людзей, якія трапілі ў чужое ім гарадское асяроддзе, але здолелі захаваць памяць аб культуры і мове свайго дзяцінства. Цяпер яны, кожны па-свойму, не чакаючы і не патрабуючы загаду, пачынаюць вяртацца да мовы бацькоўскага дому.

«Асцярожна, дзверы зачыняюцца»,— прагучала з дынаміка.— Наступны...» Які будзе наступны этап фармавання масавай свядомасці беларусаў?

У. ПАНАДА.
Фота аўтара.

✦✦✦

# ВЫКОНВАЮЧЫ ЗАКОН АБ МОВАХ

Паводле загада дырэктара на Гомельскай спецыялізаванай аўтабазе па санітарнай ачыстцы горада з верасня гэтага года ўводзіцца беларускамоўнае справаводства. Пэўная падрыхтоўчая работа была праведзена загадзя: па-беларуску афармілі большасць нагляднай інфармацыі ў вытворчых і службовых памяшканнях, правялі курсы беларускай мовы, набылі слоўнікі для кожнага аддзела і службы, выпісалі газеты «Звязда», «Наша слова», «ЛіМ», а таксама двухмоўныя дэмакратычныя «Гомельскія ведамасці» і «Народную газету», па-беларуску сталі рабіць аб'явы па ўнутранай сувязі. Усё гэта садзейнічала стварэнню адпаведнага псіхалагічнага настрою ў калектыве. З ліпеня гэтага года ўсе службовыя дакументы ўжо друкуюцца па-беларуску: і для ўнутранага карыстання (загады, палажэнні, штатныя расклады і інш.), і тыя, што ідуць за мыжы прадпрыемства (плацёжныя патрабаванні, розныя даведкі). Ніхто, дарэчы, са спецыялістаў і служачых не выказаўся супраць, незалежна ад узроўню валодання моваЙ і асабістых адносін да справаводства па-беларуску. Знайшліся на прадпрыемстве людзі, якія ведаюць мову, ахвотна карыстаюцца ёю і самахоць дапамагаюць іншым.

Некаторыя бачаць у гэтым прымус, бо загад усё-такі быў. З адным мясцовым бізнесменам здарылася нават істэрыка, калі даведаўся, што на спецаўтабазе ўводзіцца справаводства на беларускай мове.

Грошы, маўляў, выдаткоўваюцца не на каўбасу, а на мову. Але ўсім цывілізаваным народам даўно зразумела, што без мовы не будзе свабоды, а без свабоды не будзе і каўбасы.

Ці ёсць упэўненасць, што беларуская мова трывала замацуецца ў справаводстве нашага і іншых прадпрыемстваў? Такой упэўненасці, на жаль, няма. Усё будзе ў першую чаргу залежаць ад стаўлення дзяржавы да м овы і Закона аб мовах. Пакуль высокія дзяржаўныя структуры будуць ігнараваць Закон аб мовах, кіраўнікі на месцах на яго наогул не будуць зважаць. Аднак і праз тры гады пасля абвяшчэння беларускай мовы дзяржаўнай паступаюць на прадпрыемствы дакументы на «саюзнай» мове з абласнога і гарадскога выканакамаў, Дзяржэканамплапна, Мінфіна, іншых міністэрстваў і ведамстваў, акрамя, бадай, Дзяржкампрацы, дакументы якога апошняга часу надрукаваны па-беларуску.

Калі ж увядуць дзве дзяржаўныя м овы (чаго дабіваюцца найбольш непрымірымыя) хоць ва ўнітарнай дзяржаве, якой з'яўляецца Беларусь, што немагчыма нават з пазіцыі здаровага сэнсу, то чыноўнікі зразумеюць гэта так: «как хочу, так и ворочу», і ўсё вернецца да звыклага рускамоўя.

Мэтанакіраваная дзяржаўная палітыка па адраджэнні беларускай мовы ва ўсіх сферах жыцця будзе мець шырокую падтрымку не толькі многіх тысяч людзей, шчырых прыхільнікаў роднай мовы, але і ўсяго насельніцтва, якое з большым разуменнем ставіцца да беларускага слова.

М. ХАДОРКІН,
сябра Гомельскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны, эканаміст.

*У суполках ТБМ*

# *Ліст падзякі — лепшым*

Менская гарадская рада таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны прыняла рашэнне адзначыць найбольш актыўных рупліўцаў адраджэння беларускай мовы за іх актыўны ўдзел у выкананні Закона аб мовах. Падрыхтаваны спецыяльныя «Ліст падзякі».

Першымі такі дакумент атрымалі вадзіцелі тралейбуснага дэпо № 2 С. В. Астрэйка і І. А. Мішкевіч, рэктар Менскага педагагічнага універсітэта (былы педінстытут г. Менска) Л. Н. Ціханаў, старшы майстар Менскага аўтазавода Б. А. Родзіч, дырэктар універмага «Беларусь» І. І. Гарбуз, галоўны энергетык Менскай камерцыйнай базы па гандлі металапрадукцыяй фірмы «Белметал» Ю. А. Шыбіцкі.

Менская гарадская рада ТБМ імя Ф. Скарыны заклікае кіраўнікоў усіх устаноў і прадпрыемстваў адчуць асабістую адказнасць за эфектыўнае выкананне Закона аб мовах, за вырataванне беларускай нацыі. Знікне беларуская мова — знікне беларуская нацыя. На жаль, зараз ідзе моцнае скрытае супраціўленне стварэнню поўнага беларускамоўнага інфармацыйнага асяроддзя. Але мы верым у паспяховае адраджэнне беларускай нацыі!

Мікола САВІЦКІ,
прафесар, старшыня Менскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны.

# «Рома» — краязнаўчы клуб беларускіх цыган

**У Віцебску пачаў працаваць краязнаўчы клуб цыган «Рома». Падобнае аб'яднанне пакуль адзінае на Беларусі. Між тым на Беларусі сёння жыве больш за 12 тысяч цыганоў, якія ў XV—XVI стагоддзях трапілі сюды праз Польшчу, Германію, Венгрыю. Гісторыя Беларусі ведала вандроўных і паўвандроўных, аселых і паўаселых цыганоў, а таксама метысаў. У мінулым на Беларусі існавалі цэлыя сталыя цыганскія паселішчы. Сярод іх асабліва вядомы вёскі Цыганы Гарадоцкага раёна, Завячэлле Лепельскага раёна, Калодзішчы каля Менска, пасёлак Паўночны ў нашай сталіцы, пасёлак Цітаўка пад Бабруйскам.**

**У 20-х — 30-х гадах у некаторых месцах Беларусі існавалі цыганскія калгасы і сярэднія цыганскія школы, а ў пачатку 60-х гадоў у Дзяржынску (Койданава) працаваў цыганскі ансамбль песні і танца.**

**Канстанцін КАРНЯЛЮК.**
г. Віцебск.

*Чыталі?*

# «РАГНЕДА» З САЛІГОРСКА

**Нагадаем, што ў адным з папярэдніх нумароў «Нашага слова» быў змешчаны матэрыял пад аналагічнай назвай, прысвечаны «Голасу з Ліды» — газеце Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, якую нядаўна пачала выпускаць мясцовая арганізацыя ТБМ. Цяпер — знаёмства з «Рагнедай» — новай (пакуль штомесячнай, першы нумар свет убачыў у сёлетнім жніўні) газетай, заснавальнікам і выдаўцом якой з'яўляецца Салігорская рада нашага Таварыства.**

**«Рагнеда» пачынаецца паэтычным эпіграфам Л. Шпакоўскага-Случаніна: «Памятай, беларус, што і ты чалавек, які можа сабой гаспадарыць!» Пад рубрыкай «Слынныя людзі Бацькаўшчыны» ў матэрыяле «Цярністыя сцежкі Рагнеды», змешчаным на першай-другой старонках, коратка распавядаецца аб Полацкім княстве — калысцы беларускай дзяржаўнасці — часоў князя Рагвалода і яго дачкі Рагнеды, славутае імя якой дало назву газеце. Гэта не выпадковасць, бо сёння для ўсіх свядомых суайчыннікаў Рагнеда—гістарычны сімвал няскоранасці і мужнасці, уласнай годнасці і самаахвярнай любові да маці-Беларусі.**

**У першым нумары ёсць і традыцыйнае «Слова да чытача», якое мае характар праграмнай заявы: «Выданне мае на мэце далучыць (чытачоў) да скарбаў нашай гісторыі, паказаць, якая самабытная і багатая наша культурная спадчына, раскрыць аспекты сучаснага жыцця ў нашым горадзе і раёне». Тут жа сцісла сфармулявана найгалоўнейшая, надзённая палітычная задача, без паспяховага вырашэння якой далейшае развіццё Беларусі ў якасці суверэннай і незалежнай дзяржавы не падаецца магчымым: «Нам неабходна ўсвядоміць: мы — не бязродныя Іваны, не пясчынкі ў гэтым сусвеце; мы — этнас, мы — народ, мы — нацыя!»**

**Адразу адзначым, што пераважная большасць матэрыялаў першага нумара «Рагнеды» цалкам адпавядае палітычнаму накірунку, выкладзенаму ў цытаванай праграмнай заяве. Так, пад рубрыкай «Актуальнае пытанне» ў артыкуле «Закон неабходна выконваць» падкрэсліваецца, што першага верасня спаўняюцца трэція ўгодкі прыняцця Закона аб мовах, што якраз з гэтага моманту ўводзіцца ў дзеянне шэраг важных палажэнняў згаданага заканадаўчага акта (яны друкуюцца). Звернута таксама ўвага кіраўнікоў усіх дзяржаўных і камерцыйных структур Салігоршчыны на неабходнасць выканання Закона. У статыстычнай нататцы «Колькі нас?» чытач знойдзе звесткі аб нацыянальным складзе насельніцтва Рэспублікі Беларусь, дзе беларусы, нагадаем, складаюць амаль 80 працэнтаў усіх грамадзян, даведаецца таксама, колькі этнічных беларусаў жыве зараз у суседніх краінах, якія ўтварыліся на абсягах былога СССР. Сваімі ўражаннямі ад Першага з'езда беларусаў свету на другой і чацвёртай старонках газеты дзеліцца старшыня Салігорскай рады ТБМ Марыя Мацюкевіч (яна ж з'яўляецца і рэдактарам «Рагнеды»), якая ўдзельнічала ў рабоце гэтага сусветнага форума нашых суайчыннікаў.**

**Большая частка трэцяй паласы прысвечана антыбальшавіцкаму Слуцкаму паўстанню 1920 года — знамянальнай падзеі ў шматпакутнай гісторыі барацьбы за незалежнасць Бацькаўшчыны, якая доўгі час заставалася «белай плямай» недалёкай айчыннай мінуўшчыны і ўсяляк перакручвалася савецкімі фальсіфікатарамі. Гадавіна паўстання, нагадаем, летась была, урэшце, на Беларусі ўпершыню адкрыта адсвяткавана. Тут жа пад рубрыкай «Калейдаскоп» змешчана хроніка грамадска-культурнага жыцця Салігоршчыны. Паведамляецца, у прыватнасці, што ў людным і бойкім месцы райцэнтра ўжо другі месяц працуе кіёск па продажы беларускіх выданняў. Да слова, кіёск бясплатна перадаў мясцовай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны дырэктар тутэйшага малога гандлёвага прадпрыемства «Роніс» спадар Мікола Робец. Болей бы нам такіх бізнесменаў! Чытач таксама інфармуецца, што актывісты нацыянальнага Адраджэння горада і раёна разам з рэспубліканскім кіраўніцтвам ТБМ вырашылі адкрыць у Салігорску нядзельную філію Беларускага гуманітарнага ліцэя. Падкрэслена, што дзеля гэтага ўжо ажыццёўлены канкрэтныя захады. Так што можна спадзявацца: самыя здольныя вучні салігорскіх школ з гуманітарнымі схільнасцямі неўзабаве змогуць дома атрымліваць падрыхтоўку, узровень якой будзе мала чым адрозніваецца ад адпаведнай адукацыі ў сталіцы.**

**На апошняй старонцы газеты — фальклорныя матэрыялы, аб'яднаныя рубрыкай «Паданні сівой даўніны», якія праліваюць святло на гістарычнае паходжанне назваў некаторых населеных пунктаў на карце Беларусі (Старобіна, вёсак Гоцк і Рожан). Друкуюцца праваслаўная пасхалія — даты Вялікадня — на бліжэйшыя гады, кулінарныя парады (стравы з грыбоў), крыху камерцыйнай рэкламы.**

**Падсумоўваючы, скажам, што ўвесь першы нумар салігорскай «Рагнеды» пакідае добрае ўражанне. Яскрава праглядаецца палітычны накірунак газеты — барацьба за нацыянальнае адраджэнне Бацькаўшчыны шляхам вяртання да роднай культуры і мовы, да нашых адвечных беларускіх каранёў. Да таго ж большасць матэрыялаў вылучаецца даволі высокім прафесіяналізмам, хоць яны падрыхтаваны на грамадскіх пачатках, а ў рэдакцыі пакуль няма ніводнага сталага супрацоўніка. Так што выказваем глыбокую падзяку салігорскім энтузіястам ТБМ, таварыству з абмежаванай адказнасцю БелПВТТА (прамысловае вытворчае аб'яднанне «Тэкстыльна-трыкатажных адыходаў»), якое з'яўляецца фундатарам газеты (дырэктар спадар Леанід Ясінаў), а таксама навукова-вытворчай камерцыйнай фірме «Грэйп» (з яе дапамогай зроблены прывабны камп'ютэрны набор і вёрстка). Ну, а «Рагнедзе» шчыра жадаем: добрага шляху.**

**Мар'ян ВІЖ.**

*Згадкі*

*Юрка ВАСІЛЕЎСКІ, Алеся СЁМУХА*

# Пра беларускую школу не дбалі

## (Школьніцтва на Гомельшчыне ў 1919—1926 гг.)

*Знаходжанне Гомельшчыны ў 1919—1926 гг. у складзе РСФСР і наступнае далучэнне губерні да БССР дагэтуль для шырокіх колаў грамадства застаецца незразумелым гістарычным фактам. Часам узʼяднанне інтэрпрэтуецца як падарунак з боку Расіі, а не справядлівае вяртанне забранага. Асабліва многа падобных публікацый апошнім часам зʼявілася ў гомельскай прэсе. Таму, каб кампенсаваць інфармацыйны голад у падзеях не такіх ужо даўніх часоў, прапануецца кароткі нарыс нацыянальна-культурнага жыцця Гомельшчыны ў адзначаны перыяд.*

*Паколькі развіццё нацыянальнай свядомасці непасрэдна залежала ад нацыянальнай школы, аўтарская ўвага перадусім засяроджана на тагачасным беларускім школьніцтве.*

**У** ЛЮТЫМ 1919 г. ЦК РКП(б) пастанавіў вылучыць з БССР тры губерні — Віцебскую, Смаленскую і Магілёўскую — і далучыць іх да РСФСР. Апошнюю губерню неўзабаве рэарганізавалі. Губернскім цэнтрам зрабілі колішні павятовы Гомель.

Пасля заканчэння польска-савецкай вайны савецкая Беларусь мусіла задаволіцца шасцю паветамі былой Менскае губерні. Большая ж частка этнічных беларускіх абшараў была падзелена паміж Польшчаю і Расіяй.

Паколькі праграма адраджэння нацыянальнай культуры ва ўсходняй частцы Беларусі, якая аказалася ў межах РСФСР, часткова супадала з дзяржаўнымі інтарэсамі БССР, беларускія нацыянальныя дзеячы Гомельшчыны актыўна карысталіся пратэкцыяй БССР-аўскіх улад, у прыватнасці Наркамата асветы. Як пісаў Павел Любецкі ў зборніку «Маладая Беларусь», «з 1921 г. Наркамат асветы пачаў штурм русацяпскіх крэпасцяў Усходняе Беларусі». Урэшце ў Маскве пры Наркамаце асветы РСФСР было заснавана Беларускае Цэнтральнае Бюро (БЦБ), якое павінна было арганізаваць і сачыць за працэсам нацыянальнай адукацыі і асветы ў раёнах кампактнага пражывання беларусаў у РСФСР. Але адукацыя «инородцев» была абмежаванай. Афіцыйная катэгорыя «нацменшасць» ахоплівала ўсіх нерасійцаў. Яна абсалютна не ўлічвала этнічны характар канкрэтнай губерні. Такім чынам беларуская культурная праблематыка на этнічным беларускім Усходзе ставілася на адзін узровень з польскай, яўрэйскай і латышскай.

Вясною 1921 г. БЦБ вырашыла арганізаваць пры Гомельскім губернскім аддзеле народнай адукацыі сваю секцыю. Але атрымала адмову, хоць падобныя польская і яўрэйская секцыі ўжо даўно былі зарэгістраваны. ГубАНА сфармулявала наступныя прычыны адмовы: беларусы самі не хочуць вучыцца на роднай мове, вучыць іх няма каму, няма за што і ўвогуле невядома, ці ёсць беларускае насельніцтва ў губерні.

У падобную тузаніну з гомельскімі ўладамі ўступіла і Украінскае Цэнтральнае Бюро. І ўсё ж, нягледзячы на ўпартасць кіраўніцтва губерні, у некаторых школах з ініцыятывы настаўнікаў быў уведзены факультатыўны курс беларусазнаўства. Лекцыі па беларусазнаўстве пачалі чытаць, хоць і не рэгулярна, у Гомельскім педагагічным тэхнікуме. А настаўнікі сяла Прасна, што каля Гомеля, заснавалі беларускі навуковы гурток. Тым часам Наркамат асветы БССР адправіў на Гомельшчыну і Віцебшчыну школьныя падручнікі і літаратуру больш чым на 100 млн. рублёў.

Толькі летам 1922 г., саступіўшы патрабаванням БССР, пры губернскім аблАНА дазволілі існаваць беларускай секцыі. БЦБ вызначыла для секцыі 15 штатных пасад. Аднак была зацверджана толькі адна штатная адзінка.

Загадчыкам беларускай секцыі (БС) і адзіным яе супрацоўнікам стаў Сцяпан Грамыка. Працы ў яго было нямала. Нават шмат у чым тэндэнцыйны перапіс насельніцтва 1920 г. фіксаваў у Гомельскай губерні амаль 800 тыс. беларусаў, пераважна сялян. А спадзяванняў на падтрымку быць не магло хоць бы ўжо пасля знакамітай фразы старшыні губвыканкама Пестуна: «У маёй губерні беларусаў няма. Іх выдумалі інтэлігенты».

За спачуванне беларускаму руху быў нават звольнены з працы ў губернскім музеі і губАНА Ісак Сербаў — вядомы навуковец, аўтар многіх манаграфій, у тым ліку па этнакультурнай спецыфіцы Гомельшчыны. У Гомелі ён мусіў працаваць на чыгунцы. А перабраўшыся ў Менск, узначаліў універсітэцкую кафедру этнаграфіі.

На пачатку 20-х гадоў афіцыйны Гомель адкрыта адстойваў тэзіс, што беларусаў на Гомельшчыне няма. А ёсць толькі этнічныя расійцы і нацыянальныя меншасці: палякі, яўрэі і латышы.

Сапраўды, калі нешта і рабілася ў справе беларусізацыі на афіцыйным узроўні, дык толькі дзякуючы ініцыятывам БССР. У спрэчках паміж Менскам і Гомелем пасрэднікам выступала Масква, бо сістэма адміністрацыйна-тэрытарыяльных узаемаадносін выключала непасрэдны дыялог Менска з усходнімі беларускімі губернямі ў складзе РСФСР. Менск праз увесь час турбаваў кіраўніцтва гэтых губерняў сваімі самымі разнастайнымі захадамі ды ініцыятывамі.

БССР не трацілa надзеі на ўзбуйненне тэрыторыі рэспублікі. Яна вынесла гэту ідэю на абмеркаванне ў вышэйшыя партыйныя інстанцыі савецкай Расіі.

У кантэксце падрыхтоўкі ўзбуйнення ўрад БССР бачыў і нацыянальна-культурную працу на Усходзе, у прыватнасці школьніцтва. Пачынаючы з другой палавіны 1922 г., ужо можна гаварыць пра пэўныя поспехі ў гэтай справе. Праўда, першыя 4 школы — 2 у Рагачоўскім павеце і 2 у Магілёўскім — арганізаваліся з ініцыятывы настаўнікаў, а не беларускай секцыі, якую губАНА пакінуў фактычна без сродкаў. Секцыя меркавала наладзіць нацыянальнае школьніцтва праз паступовую беларусізацыю расійскіх школ і перападрыхтоўку настаўнікаў.

31 траўня 1923 г. у газеце «Савецкая Беларусь» быў надрукаваны артыкул настаўніка з в. Пералеўкі М. Каршукова «Беларускі культурны рух на Гомельшчыне». Паводле аўтара, у адной толькі Стаўбунскай воласці адкрыцца беларускіх школ дамагаліся сяляне трох вёсак — Пералеўкі, Хлусаў і Гутны. Але ўлады задаволілі толькі просьбу адной вёскі.

Праца ў такіх умовах дазволіла адкрыць толькі 6 беларускіх школ у губерні, у якіх 6 настаўнікаў вучылі 291 вучня. Для параўнання: у той час у губерні была ўжо 21 польская школа, 43 яўрэйскія, апроч таго — іх нацыянальныя клубы, хаты-чытальні, пункты па ліквідацыі непісьменнасці, дзіцячыя дамы і сельсаветы, чаго ў беларусаў Гомельшчыны зусім не было.

І ўсё ж менавіта ў 1923 г. стаўленне ўлад да беларускага руху перамянілася. Справа ў тым, што ЦК Расійскай камуністычнай партыі даў згоду на ўзбуйненне тэрыторыі савецкай Беларусі за кошт беларускіх этнічных тэрыторыяў на Усходзе. Заставалася выпрацаваць працэдуру і вызначыць контуры новых усходніх межаў БССР.

Савет нацыянальных меншасцяў пры Гомельскім губАНА тэрмінова пастанавіў перавесці на беларускую мову выкладання «мінімум 10 школ па губерні». Пачалася рэгістрацыя настаўнікаў, здольных працаваць у беларускай школе. У праграму Гомельскага педтэхнікума вырашылі ўвесці прадмет «радзімазнаўства». У жніўні 1923 г. губвыканкам склікаў нараду па беларускім пытанні, дзе абмяркоўвалася і колькасць беларусаў у губерні. Загадчык губернскага архіва, вядомы навуковец Зміцер Даўгяла паведаміў сходу пра відавочную перавагу беларускага насельніцтва ў губерні і адзначыў гаспадарчую традыцыю сялянства як беларускую. Яго падтрымаў і супрацоўнік статыстычнага губернскага бюро Рыбін, які прывёў дадзеныя перапісаў насельніцтва.

Зразумела, што перспектыва далучэння да БССР выклікала ў кіраўніцтва Гомельскай губерні не зусім станоўчыя эмоцыі. Каб прадухіліць расфарміраванне сваіх тэрыторый альбо частковую страту іх, яны прапагандавалі альтэрнатыўную ідэю — стварэнне Заходняй вобласці, у якой «нацыянальнасць — паводле слоў кіраўніка губернскай планавай камісіі Гальдштэйна — не будзе мець значэння».

На пасяджэнні была прынята пастанова: на падставе перапісаў насельніцтва 1897 і 1920 гг. вывесці сярэднія дадзеныя па нацыянальным складзе губерні, а губернскім адукацыйным службам заняцца вывучэннем быту і мовы карэннага насельніцтва, магчымасцей арганізацыі беларускіх школ. Дзеля гэтага была складзена спецыяльная анкета. Яе разаслалі ва ўсе павятовыя выканкамы і аддзелы народнай адукацыі. Вынікі анкетавання супярэчылі назапашаным больш чым за сто год навуковым дадзеным. Натуральна, што яны не абапіраліся на вывучэнне сітуацыі ў паветах і, па сутнасці, адлюстроўвалі цынічную пазіцыю перыферыйных кіраўнікоў да беларускай культуры ў прыватнасці і да беларускага пытання ўвогуле.

Навазыбкаўскі выканкам паведамляў, што ўвядзенне беларускай мовы ў школах «совершенно невозможно». Такі самы адказ даў Старадубскі выканкам. Клімавіцкі павятовы АНА аднёс насельніцтва павета да нейкай міфічнай «смаленска-віцебскай велікароскай групы, якая гаворыць па-расейску з пэўнай доляй правінцыяналізмаў», і дадаў, што мясцовыя працаўнікі сістэмы адукацыі, вучні і іх бацькі да беларускай літаратурнай і гутарковай мовы ставяцца вельмі адмоўна. Да ўсяго, у павеце няма настаўнікаў, якія б ведалі беларускую мову і літаратуру.

Паводле пераканання Чэрыкаўскага АНА, «беларуская мова сталася б штучным насаджэннем». Рагачоўскі выканкам, прызнаючы насельніцтва беларускім і згадаўшы беларускую школьную працу ў вёсках Азяраны і Падсёлы, тым не менш выказаўся супраць беларускіх школ. Такую самую пазіцыю занялі выканкамы Рэчыцкага і Гомельскага паветаў, хоць і падалі звесткі, што беларускае насельніцтва ў гэтых паветах складае 85—90 працэнтаў і характарызавалі мову сялянства як беларускую гутарковую. Праўда, праз некалькі месяцаў Гомельскі павятовы АНА і выканкам ужо «выправілі» свае дадзеныя, сцвярджаючы, што «адкрыццё беларускіх школ у Гомельскім павеце не патрэбнае, бо беларусаў ёсць нязначная колькасць». А дзеці іх «чужды белорусскому наречию и всецело желают обучаться на чисто русском языке».

Такім чынам, не зважаючы на цыркуляры розных губернскіх служб спыніць русіфікацыйную лінію і пачаць нацыянальную працу, справа беларускага школьніцтва сустрэла рэзкае супраціўленне і на ўзроўні паветаў. Пакуль павятовыя і валасныя партыйна-савецкія органы Гомельшчыны супраціўляліся беларусізацыі, беларуская секцыя губАНА наладзіла сваю працу. Беларусізацыя ў мястэчках і вёсках трымалася ў асноўным на настаўніках і студэнтах. А беларуская секцыя дапамагала ім фінансава, забяспечвала літаратурай і наладжвала кантакты з рознымі навучальнымі і навуковымі ўстановамі БССР. У лістападзе 1923 г. утварыліся яшчэ два гурткі беларускіх студэнтаў. Адзін пры Навазыбкаўскім палітэхнікуме і другі пры Рагачоўскім педагагічным тэхнікуме. У Рагачове студэнты пад кіраўніцтвам выкладчыка Янкі Мацвяёнка заняліся краязнаўствам, вывучалі гісторыю Беларусі і гісторыю беларускай літаратуры. Беларускі гурток з 60 вучняў існаваў у Краснапольскай школе імя Пірагова. Яго працай кіраваў настаўнік Андрэй Шашалевіч, — ён жа вядомы пісьменнік Андрэй Мрый.

Пэўную палёгку прынёс 1924 год. Вясною да БССР было далучана 6 паветаў Гомельскай губерні: Клімавіцкі, Быхаўскі, Магілёўскі, Рагачоўскі, Чавускі і Чэрыкаўскі. Затое ў астатніх недалучаных паветах і ў самім Гомелі беларускі рух перажыў чарговы ўціск з боку партыйных органаў, ад якіх у першую чаргу залежала развіццё беларускага школьніцтва і якія небеспадстаўна бачылі ў ім пагрозу наступнага драблення губерні. Тым больш, што Менск па-ранейшаму настойваў на вяртанні БССР усіх без выключэння паветаў губерні і перадусім самога Гомеля.

Катастрафічная сітуацыя з беларускім школьніцтвам у гады знаходжання Гомельшчыны ў складзе РСФСР прымусіла Цэнтрсаўнацмен склікаць у красавіку 1925 г. у Маскве спецыяльную нараду па беларускім і ўкраінскім пытаннях.

Паводле даклада старшыні Цэнтрсаўнацмена Н. Мухітдзінава, толькі 35 працэнтаў беларусаў у лепшым выпадку забяспечаны ў РСФСР дзіцячымі садкамі, хатамі-чытальнямі і пунктамі па ліквідацыі непісьменнасці. І толькі 5 працэнтаў беларускіх дзяцей мелі магчымасць наведваць беларускую школу.

1925/26 навучальны год стаўся для беларускай школы Гомельшчыны першым годам працы без перашкод, хоць і без прыкметнага спрыяння ўлад.

На 1 студзеня 1926 г. ў губерні існавалі 52 беларускія школы розных ступеняў, 2 хаты-чытальні і 25 лікпунктаў. Аднак школы беларусаў складалі толькі 5,1 працэнта ў агульнай колькасці па губерні.

У 1925 г. беларуская тэма ўпершыню выйшла на старонкі губернскага партыйнага і савецкага друку. Партыйны часопіс «Полесский Коммунар» змясціў матэрыял «Нацмен палітыка ў губерні», у якім гаворка ішла пра курс беларусазнаўства ў педтэхнікуме і нараканні сялян на беларусізацыю. А завяршаўся артыкул знаёмай высновай: перш чым адкрываць беларускія школы, трэба «глыбока вывучыць жаданне насельніцтва».

*Працяг будзе.*

*Гісторыя Айчыны — вайскоўцам*

*З. Ю. КАПЫСКІ, П. А. ЛОЙКА, В. І. МЯЛЕШКА*

# БЕЛАРУСЫ: ВЁСКА І ГОРАД У ЧАСЫ ВАЕННАГА ЛІХАЛЕЦЦЯ І АНАРХІІ Ў ДЗЯРЖАВЕ

## (другая палавіна XVII—XVIII стст.)

*Працяг. Пачатак у № 39.*

*Працягваем друкаваць раздзелы з вучэбнага дапаможніка для вайскоўцаў «Гісторыя Беларусі».*

Васіль Вашчыла і яго бліжэйшыя паплечнікі — Іван Карпач, Стэсь Бочка, Васіль Вецер — намерваліся другі раз атакаваць Крычаў, захапіць яго, блакіраваць замак і прымусіць княжацкае войска здацца. Пачаць наступленне планавалася 26 студзеня 1744 г. Але пра гэта дазнаўся вораг. Атрымаўшы доўгачаканае падмацаванне — гарматы і жывую сілу, кіраўніцтва радзівілаўскага войска вырашыла апярэдзіць паўстанцаў. У ноч на 26 студзеня — на той дзень, калі сяляне планавалі захапіць Крычаў, радзівілаўскія злучэнні рушылі на Царковішча. Асцярожна, пад покрывам цемнаты, княжацкі атрад наблізіўся да лагера паўстанцаў. Калі пачало днець, радзівілаўскае войска знянацку напала на сялян, якія не здолелі арганізаваць абарону. Невялікія групы паўстанцаў адыходзілі да лесу, каля 200 чалавек загінула на полі бою, 176 трапіла ў палон. Камандуючы радзівілаўскім войскам загадаў 30 паўстанцаў павесіць, яшчэ 30 пасадзіць жывымі на палі і падвесіць за рэбры на круках. Уся маёмасць актыўных удзельнікаў паўстання канфіскавалася. Па сутнасці вёскі Крычаўскага староства былі аддадзены салдатам на рабаванне. У першай палавіне лютага 1744 г. у Крычаў прыбыў гаспадар уладання Геранім Фларыян Радзівіл. Тады ж адбыўся суд над кіраўнікамі сялянскага руху. 16 паўстанцаў былі асуджаны да пакарання смерцю, аднак сярод іх імя Вашчылы не значылася.

Пасля паражэння пад Царковішчам, калі Вашчыла зразумеў, што не зможа больш сабраць сялянскія атрады, каб супрацьстаяць радзівілаўскім наймітам, ён вырашыў уцячы ў Расію. Яму ўдалося вырвацца з Крычаўскага староства і дабрацца да Латакоўскага фарпоста на тэрыторыі Расійскай імперыі. Услед доўга гналіся дзве харугвы жаўнераў. Яны даскакалі аж да фарпоста, але схапіць Вашчылу не змаглі. На той час кіраўніка паўстання пераслалі з Латакоўскага фарпоста на Цімошынскую пагранічную заставу, а потым і далей — у Старадуб, у Кіеў. Радзівіл накіраваў ліст у Кіеўскую губернскую канцылярыю з патрабаваннем выдаць яму важака прыгонных «бунтаўшчыкоў». Але адразу гэта было нельга зрабіць. Спачатку патрабавалася вызначыць паходжанне Васіля Вашчылы. Калі б кіраўніка паўстання палічылі падданым Расійскай дзяржавы — маларасіянінам, яго б не выдалі Рэчы Паспалітай згодна з Вечным мірам 1686 г. Калі б аказалася, што ён беларус, ураджэнец Крычаўшчыны, падданы Рэчы Паспалітай, то рускія ўлады мусілі б выдаць Вашчылу як уцекача. Паходжанне Васіля Вашчылы чыноўнікі расследавалі старанна і доўга. Допыты Вашчылы, яго родных, папяровая цяганіна паміж Старадубам, Кіевам, Пецярбургам працягвалася з лютага аж да верасня 1744 г. Пакуль перасылаліся лісты, указы, загады, Васіль Вашчыла, якога трымалі пад аховай у Старадубскай крэпасці, цяжка захварэў, а 28 жніўня 1744 г. Вашчыла памёр.

Буйное ўзброенае выступленне сялян у 50-я гг. XVIII ст. адбылося на паўднёвым усходзе Беларусі ва ўладанні віленскага капітула (калегіі пры каталіцкім епіскапе) Каменьшчына (Мазырскі павет). Хваляванні тут пачаліся яшчэ ў 1736 г. і з перапынкамі працягваліся больш за два дзесяцігоддзі. Прычынай іх быў непасільны прыгнёт сялян ад адміністрацыі капітула.

У 1754 г. сялянскія хваляванні перараслі ва ўзброенае выступленне. Значную ролю ў гэтым адыграў гайдамацкі рух. У 1754 г. паўстанне гайдамакаў адбылося на Жытоміршчыне, якая непасрэдна прымыкала да Каменьшчыны. Трэба думаць, што невыпадкова ў гэты ж час супраць сваіх прыгнятальнікаў са зброяй у руках выступілі сяляне Камянецкай воласці.

Самыя раннія зесткі аб камянецкім выступленні адносяцца да 7 верасня 1754 г. Пад гэтай датай значыцца загад гетмана аб накіраванні ва ўладанне дзвюх харугваў пад камандаваннем ромтістраў Бараноўскага і Швыкоўскага для падаўлення сялянскага выступлення. Напэўна, гэта ім хутка ўдалося, бо ў снежні харугвы былі адкліканы на папярэдняе месца дыслакацыі.

Аднак барацьба ва ўладанні не спынілася. У кастрычніку 1755 г. сяляне зноў узяліся за зброю і тым жа дзвюм харугвам, як і год назад, давялося выпраўляцца ва ўладанне капітула. На гэты раз такой сілы для ўціхамірвання падданых не хапіла, бо Радзівіл праз месяц накіроўвае на Каменьшчыну яшчэ 4 харугвы (70 коннікаў) на чале са шляхціцам Панятоўскім. Аднак і такой колькасці для падаўлення выступлення было яўна недастаткова. У сваім лісце Радзівілу ад 8 студзеня 1756 г. Панятоўскі паведамляў, што паўстала ўся Камянецкая воласць, у якой налічваецца звыш 700 сялянскіх двароў.

Пры падыходзе харугваў да ўладання сяляне кідалі свае вёскі і хаты і накіроўваліся да мястэчка Славечна, дзе мелі намер, згуртаваўшыся, аказаць узброенае супраціўленне войску. Так і адбылося. Сялянскі атрад сустрэў людзей Панятоўскага яшчэ перад Славечнам. Нечакана для шляхецкага атрада прыгонныя пасля абстрэлу перайшлі ў атаку. Невялікае злучэнне Панятоўскага не здолела вытрымаць націску і пачало адступаць. Спачатку адступленне мела арганізаваны характар. Адыходзячы, харугвы аказвалі некаторае супраціўленне, але затым кінуліся наўцёкі. Панятоўскаму давялося адысці да Убарці — мястэчка, якое размяшчалася на адлегласці 10 міляў ад Каменьшчыны. Тут ён вырашыў затрымацца да таго часу, пакуль не падыдзе дапамога ад Радзівіла.

Рыхтаваліся да сустрэчы радзівілаўскага войска і паўстанцы. Ля в. Славечна яны стварылі ўмацаваны лагер. Па дадзеных Панятоўскага «бунтаўнікоў» налічвалася некалькі тысяч. Усёй воласцю яны далі клятву «змагацца да апошняга, хоць і галовы прыйшлося б пакласці».

У лютым 1756 г. да Панятоўскага прыбыло 55 коннікаў, а ў сакавіку з Нясвіжа падышла пяхота з гарматамі пад камандаваннем капітана Ціля. Да таго ж да Оўруча па загаду Радзівіла была накіравана гетманская міліцыя на чале з палкоўнікам Матавідлам.

Панятоўскі выступіў з Убарці, каб злучыцца пад Оўручам з міліцыяй, а потым атакаваць лагер паўстанцаў. Пасля аб'яднання пад камандаваннем Панятоўскага налічвалася ўжо каля 400 чалавек. Гэта былі і гусары, і лёгкая конніца, і пяхота з артылерыяй. З гэтай сілай ён мог разлічваць на поспех у сутычцы з сялянскім атрадам, таму адразу накіраваўся да Славечна.

Атабарыўшыся пад лагерам, Панятоўскі накіраваў сурмача да паўстанцаў з прапановай капітуляцыі. Але тыя адзінадушна пацвердзілі сваё рашэнне змагацца да апошняга. Пасля такога адказу камандуючы шляхецкім атрадам аддаў загад атакаваць замак. Вайскоўцы падпалілі гумны, у якіх паўстанцы зрабілі засады. Атака была імгненнай, і сяляне не вытрымалі націску. Замак быў захоплены. Паўстанцы згубілі 60 чалавек. Больш таго, некалькі дзесяткаў сялян патанулі ў балотах, якія суседнічалі з лагерам. Каля 60 чалавек раненых былі ўзяты ў палон. Аднаго з палонных карнікі адразу пасадзілі на палю.

Гэта быў пачатак жорсткай расправы, якую ўчынілі пераможцы над паўстанцамі. Потым на месца экзекуцыі яны сагналі ўсё дарослае насельніцтва Камянецкай воласці і пачалі выконваць прысуды: адных удзельнікаў сялянскага руху каралі смерцю, іншых — білі бізунамі. Перад адыходам з мястэчка Панятоўскі загадаў 4 кіраўнікоў паўстання пасадзіць на палі, а 10 сялянскіх важакоў, прывязаўшы да гармат, адправіць у Нясвіж на суд да Радзівіла. На жаль, прозвішчы паўстанцаў, іх далейшыя лёсы невядомы.

Такім чынам, паўстанне на Каменьшчыне, якое мела лакальны характар, пацярпела паражэнне. У ім, як і ў паўстанні сялян Крычаўскага староства, а таксама іншых узброеных выступленнях прыгонных, дакладна праявіліся тыповыя для феадальнай эпохі раз'яднанасць сялянскага руху, яго непаслядоўнасць, якая вынікала з рознасці інтарэсаў асобных катэгорый сялянства.

Але, разам з тым, безвыніковымі сялянскія выступленні назваць нельга. Бо пасля іх становішча сялян на некаторы час паляпшалася, ліквідаваліся найбольш агідныя праявы феадальнага прыгнёту.

У другую палавіну XVII—XVIII ст. беларускія гарады ўвайшлі ў стане страшэннага разбурэння, што прынесла дваццацігадовая «смута» 1648—1667 гг. Так, калі 18 гарадоў і мястэчак Наваградскага ваяводства да пачатку войн 1648—1667 гг. налічвалі 4071 дом, то пасля гэтага часу — 2329 дамоў, г. зн. было знішчана 1742 дамы, ці 42,8 працэнта, 8 гарадоў Берасцейскага ваяводства налічвалі адпаведна 4745 і 2012, г. зн. знішчана 57,6 працэнта дамоў, 12 гарадоў Менскага ваяводства — 1646 і 809, г. зн. 50,8 працэнта даваеннай колькасці дамоў. Ад 50 да 70 працэнтаў дамоў страцілі за гады войнаў Полацкае, Віцебскае, Мсціслаўскае ваяводствы.

Са спыненнем ваенных дзеянняў на тэрыторыі Беларусі ў гарадах пачалося паступовае аднаўленне гаспадарчага жыцця. Гэты працэс праходзіў да другой палавіны XVIII ст. шляхам вяртання гарадам звыклых ім функцый цэнтраў рамёстваў, унутранага і знешняга гандлю. З адраджэннем рамяства вярталася і яго папярэдняя арганізацыя — цэхі. Разам з тым узмацнялася значэнне некаторых з'яў, што ўзніклі ў першай палавіне XVII ст.: узрастанне ролі скупшчыка-пасрэдніка ўжо не толькі з купецкага асяроддзя, але і з ліку багатых майстроў, цэхмістраў. Абвастраюцца адносіны паміж цэхамі і «партачамі» — нецэхавымі рамеснікамі, паміж блізкімі па прафесіі цэхамі.

Да новых рысаў эканамічнага жыцця можна аднесці ўзнікненне мануфактурнай вытворчасці. Узмацненне манаполіі цэхаў на рынках гарадоў абумовіла канцэнтрацыю мануфактур галоўным чынам у мястэчках, малых гарадах, якія складалі частку магнацкіх уладанняў. Так, у 30-я гг. XVIII ст. у мястэчку Урэчча Бабруйскага павета ўзнікла мануфактура шкляных вырабаў, у мястэчку Свержань — фарфоравая мануфактура, у 1751, 1753 гг. у Слуцку заснаваны мануфактуры, дзе выраблялiся адмысловыя шаўковыя паясы і суконныя тканіны. У другой палавіне XVIII ст. мануфактурная вытворчасць пачала набываць рысы маштабнасці. У ліку найбольш вядомых у гэты час былі мануфактуры ў малых гарадах і мястэчках Крычаве, Шклове, Горках, Добрушы, Дуброўне, Мышы і інш. Усяго ж на 53 мануфактурах у азначаны перыяд было занята 2400 рабочых, большая частка якіх складалася з прыгонных.

Значны зрух адбыўся ў знешнім гандлі, якім займалася гарадское купецтва. Справа ў тым, што ўзрасла роля Пецярбурга, цераз які купецтва паўночна-заходніх гарадоў Расіі разгарнула свае экспартныя аперацыі ў Заходняй Еўропе. А гэта рэзка скараціла значэнне пасрэдніцкай дзейнасці беларускага купецтва, пераарыентаваўшы яго гандлёвыя сувязі на гарады паўночна-заходняй Расіі і Левабярэжнай Украіны. Але структура гандлёвых аперацый істотна не змянілася. Па-ранейшаму яе асновай была прадукцыя сялянскай гаспадаркі, а ўвоз складаўся з вырабаў прамысловасці, металаў, галантарэі.

Вярхоўная ўлада, улічваючы значэнне гарадоў у процідзеянні магнацкаму самавольству і феадальнай анархіі, садзейнічала гараджанам у аднаўленні ролі самакіравання. Так, за мяшчанамі Магілёва ў 1661 г. і пазней за мяшчанамі Гародні было замацавана права выбіраць войта горада. На працягу 60-х гг. XVII ст. члены магістратаў Магілёва, Віцебска, Гародні атрымалі шляхецкія правы. У 1764 г. сойм прыняў рашэнне аб ліквідацыі ў гарадах судовай юрысдыкцыі шляхты і духавенства, і гараджане, якія жылі на юрыдыках феадалаў, падпадалі пад уладу магістратаў. У 1776 г. сойм пастанавіў адмяніць магдэбургскае права ў гарадах, якія не з'яўляліся цэнтрамі ваяводстваў і паветаў. Тут спецыяльнай камісіяй устанаўліваўся асобны парадак, які павінен быў гарантаваць мяшчанам іх уласнасць, свабоду займацца рамяством, гандлем, права куплі-продажу дамоў і іншай маёмасці, свабоду змены месца пражывання.

**(Матэрыял скарочаны; тэкст да друку падрыхтаваў М. Віж.)**




*Рубрыку вядзе*
*ЛЯВОН БАРШЧЭЎСКІ*

**Калі б Акакій Цэрэтэлі (1840—1915), слынны паэт Грузіі, напісаў у жыцці толькі адзін свой верш, «Суліко», ён усё адно не быў бы ніколі забыты.**

*Акакій ЦЭРЭТЭЛІ*

## Суліко

**Я магілу любай шукаў,**
**Толькі не знаходзіў навакол.**
**Доўга плакаў, суміўся, гукаў:**
**«Дзе ж ты, дарагая Суліко?»**

**Я прыкмеціў ружу між шыпоў —**
**Век не бачыў вабнасці такой.**
**Да яе ў трымценні падышоў:**
**«Ці не ты мая Суліко?»**

**Кветка невыказнае красы**
**Нахіліла ў згодзе галаву,**
**І, як слёзы, пацеркі расы**
**Пырснулі ў зялёную траву.**

**Салаўя убачыў праз лісты**
**І патурбаваў яго спакой,**
**Я спытаўся ў птушкі: «Ці не ты,**
**Ці не ты мая Суліко?»**

**І ў адказ пачуў ласкавы спеў**
**Ціхага дагэтуль салаўя,**
**Быццам бы сказаць ён мне хацеў:**
**«Хіба ты не бачыш — гэта ж я!»**

**Зорка ззяла светла нада мной,**
**Нібы намякала спатайком.**
**Я спытаў, любуючыся ёй:**
**«Ці не ты мая Суліко?»**

**І яна міргнула мне ў адказ,**
**Промнямі пагладзіла мяне.**
**І якраз у гэты самы час**
**Ветрык мне на вуха зазвінеў:**

**«Тое, што шукаў, ты ўжо знайшоў —**
**Удыхні, паслухай і зірні.**
**Ты знайшоў яе — і боль прайшоў,**
**Хай цяпер твае святлеюць дні.**

**Стала ружай, зоркай, салаўём**
**Тая, што пяшчотна ты кахаў,**
**Не, каханне шчырае тваё**
**Не здалела чорная туга».**

**Зразумеў я гэты запавет,**
**І не праклінаю я свой лёс.**
**І ўжо больш не скарджуся на свет,**
**І не праліваю болей слёз.**

**Ружаю журбу сваю лячу,**
**Слухаю, шчаслівы, салаўя,**
**Радасны, за зоркаю сачу,—**
**І нібыта зноў з табою я.**

**Зноў мне стала хораша ў жыцці —**
**Я знайшоў цябе праз боль вякоў:**
**Гэта ты спяваеш і мігціш,**
**І цвіцеш, як ружа, Суліко!**

Пераклад Янкі СІПАКОВА.

*Пошук праўды*

# «Пакіньце займацца дурніцай»

Некаторыя газеты ды часопісы ператварылі 1993 год у «год Мядзёлкі». Публікацыя яе ўспамінаў, навукова-апалагетычныя прадмовы, нарысы, падобныя на доўгія вучнёўскія шпаргалкі, дробненькакаліберныя бліц-эсэ. І гэта — паралельна з публікацыяй у «ЛіМе» рэплікі Тацццяны Процькі, дзе Мядзёлка даволі доказна раскрываецца ў апостасі... як агент ГПУ. А назвы юбілейных публікацый аж захоплівалі: «Паўліна, Паўлінка, журавінка». Пераказваюць, цытуюць як вялікую асветніцу-прарочыцу: «Бо ўсё прыгожае, вольнае, светлае, усё новае родзіцца праз мукі, цярпенне, праз кроў» («ЛіМ», 10.09).

Што тут сказаць, калі нас так выхоўвалі: што кроў, што журавінны сок — абы чырвонае. Не ведаем, дзе напісаў Купала неўміручую «Паўлінку», дзе яна была пастаўленая ўпершыню, якая з выканаўцаў была першая («Звязда», 11.09), але падайце нам Віёна ды Платона, каб праз іхнія аўтарытэты параўнаць Мядзёлку ды з Ларысай Геніюш, назваўшы іх «дзвюма паловамі пярсцёнка» (?!). Людцы, гэта ж ці не тое самае, што параўнаць сініцу ды начніцу альбо жураўля ды вераб'я. Апломб, памножаны на недасведчанасць?..

Чытаючы прадмову прафесара Уладзіміра Калесніка да палымянскай публікацыі Мядзёлчыных «запісак», я заўважыў, як ён тую самую «крываваю» Мядзёлчыну цытату элегантна абмінуў, паставіўшы нейтральнае шматкроп'е (№ 2, с. 175, радок 32 зверху). Гэта вам не Марціновіч з «ЛіМа» альбо Вераціла са «Звязды». Аднак не ўсё ўдалося зразумець мне і ў прафесара. Прынамсі, там, дзе ён асноўную надзею на разгадку гібелі Купалы так упэўнена ўскладае на расследаванне з подпісамі членаў пахавальнае камісіі. Дарүйце, але мне здавалася, што пахавальныя камісіі наладжваюць парадак пахавання, паніхіду, а расследаванні робяць адпаведныя інстанцыі ды спецыяльныя камісіі, прызначаныя імі. Паралельна, вядома, могуць падключыцца «самадзейныя Шэрлакі Холмсы» альбо «патрыёты-экстрасэнсы», на якіх шаноўны наш прафесар пазірае неяк «зверху». Альбо гэта элемент самаіроніі?

Чытайце ўважліва: «Мне давялося натрапіць на звесткі, што апошні раз Паўліна Мядзёлка магла сустрэцца з мужам (мо з былым ужо? — Г. К.) восенню 1921 года на нацыянальнай канферэнцыі ў Празе».

Звесткі, што магла сустрэцца, а магла і не сустрэцца? Варыянтнасць, верагоднасць — наша ахілесава пята. Калеснік піша: «Пасля гэтага (пасля таго, як Грыб з Мядзёлкаю «маглі» сустрэцца? — Г. К.) Тамаш Грыб сустракаў адведаць яе ў Дзвінску ў 1922—1925 гадах і ў Менску — у 19826 годзе, але латвійскія ўлады не пакідалі яго прыняць, а ў БССР пабаяліся пускаць кіраўнікі Беларускай Рады ў Чэхаславакіі як чалавека канфліктнага і неўгаманнага».

Мо пахвалюся — мне таксама сёе-тое «давялося». Атрымаўшы доступ да сакрэтаў колішняга партархіва беларускага ЦК, натрапіў на цікавы дакумент, які прафесару Калесніку, відаць, быў невядомы (НАРБ, Ф. 4, в. 21, с. 69, л. 243). Калі ён недзе друкаваўся, хай даруюць мне дасведчаныя людзі.

*Перлюстрацыя* (тайны прагляд і, ведама ж, перапісванне карэспандэнцыі з мэтай сачэння, цэнзуры. — Г. К.). Адна старонка шчыльнага машынапісу. Грыб — Мядзёлцы, з Прагі ў Менск. Мяркуйце самі, хоча ён ці не сустрэцца з ёю ў Менску, хоча ён ці не прыехаць з капіталістычнай Прагі ў сацыялістычны Менск, і хто яго пускае альбо не пускае да яе.

«Палуша!

Даўно я табе не пісаў і гэта зразумела — быў заняты падгатоўчай працай да дахтароту. Цяпер маю крыху вольнага часу. Пішу. Дык вось. Я атрымаў тваю тэлеграму і тваё пісьмо, на тэлеграму даў такі адказ: — пакіньце займацца дурніцай. Застаюся працоўным. Пішу адказ на пісьмо.

Каб не было ніякіх непаразуменняў высьвятляю табе ўсё па парадку. Ты пішаш каб я зараз жа прыяжджаў у Менск. Мой адказ на гэта ёсць: Пры сучасных абставінах у Менск я прыехаць не магу. Чаму? А таму што я як і раней, як і заўсёды цьвёрда стаю на прынцыпова ідэалегічным грунце. Я не пакідаю быць цьвёрдым у сваіх пераканаўнях, я не мяняю сваіх пераканаўняў, свайго сьветапогляду ў залежнасці ад часова-зьменных войнкавых абставінах (захоўваю магчымыя машынапісныя памылкі перлюстрацыі. — Г. К.), як гэта робяць іншыя Ягомосьці, што сягодня едуць заграніцу ў Менск, шукаючы там сабе цёплых пасадаў. Вось і ты ў тэлеграме пішаш: «служба будзе» я ў гэтым не сумлеваюсь але якая служба, каму? Служба працоўнаму народу ці каму іншаму? Служыць працоўнаму народу, служыць чэсна, сумленна — можна ня толькі ў Менску, а і тут заграніцай. І мне вельмі дзівіць, што ты гэтак упарта даводзіш без жадных доказаў, патрэбнасьць майго прыезду ў Менск, выстаўляючы адзін аргумент аб «службе». Значыцца: гэта твой аргумент адпадае, бо служыць свайму народу я магу і тут. Праўда я гэтага не скрываю, тут цяжка жыць, спрутнае ёсць маё матэр'яльнае становішча. Цярплю сухотыцу. Але ці вынікае з гэтага, што я павінен зрачыся ад свайго рэвалюцыйнага сацыялістычнага сьветапогляду. Безумоўна не? Я знаходжу для сябе лепшым памерці тут галоднай сьмерцю, але ратаваць сваю чалавечую годнасьць, чым быць у Менску самазадаволенай свіньнёй. Ты добра мяне ведаешь, і тым больш мяне дзівіць, што ты мне прапануеш гэткую ганьбу. Я толькі тады зраблю так, як ты радзіш — зьвярнуся за візай у радавае консульства ў Празе, калі ўлада дасьць магчымасьць легальна мне працаваць у БССР. Інакш кажучы, калі Урад БССР легалізуе Б.П.С.Р. Вот тады зусім іншая справа. А зьвяртацца цяпер, калі Урад прасьледуе рэвалюцыйна-сацыялістычную думку, калі ён зьдзяйсьняе ліквідацыю беларускіх соцыялістаў-рэвалюцыянераў, стварае атмасфэру ганебнага рэнегаства, розными ашуканствамі дэмаралізуе інтэлігенцыю, робіць злачынства над працоўным народам, цяпер я зьвярнуцца ў радавы кансулат за візай, каб паехаць у Менск на «службу» я не магу. Хутчэй я рашуся на іншы паступак — паеду на Ольшаны, каб там зламшчы свае косьці дзе сьпіць вечным сном наш зямляк Дзяледнік. Гэткі ёсць мой погляд. Мо гэта і неразумна, не практычна — але я інача не магу. Я ўважліва прыслухоўваюся да голасу маёй сьвядомасьці. Яна мне кажа — мая сьвядомасьць — будзь честным, крэпка дзяржыся праўды, адстаівай праўду. Кажы ўсім і кожнаму толькі праўду і за сваю праўду не страшыся і памерці.

Я рашыў лепш памерці, чым быць рэнегатам, сьмешнай рабачкай для ўцехі «нэпаўскай» пані. І калі настане такі час, што я не смогу далей працаваць на карысьць вызваленьня і адраджэньня прыгнечанага і паняволенага люду, тады я знайду спосаб, каб спыніць свае ўстаўшае нікому не патрэбнае жыцьцё. Зраблю гэта з дастойнасьцю належна беларускаму сацыялісту рэвалюцыянеру, а пакуль я яшчэ магу працаваць, пакуль яшчэ не адкажуцца служыць мне мае фізічныя сілы — я буду працаваць тут хоць чарнарабочым, ні на адну хвілю не пакідуючы сваё навуковай і літэратурна-філязофскай працы. Я пішу сур'ёзную працу. Мушу яе закончыць, колькі на гэта патрабуецца часу не ведаю. Мушу зарабляць на пражыцьце, гэта шмат часу адбірае. Але покуль яшчэ сілы працую.

Каб правідлова ты мяне зразумела ды пакінулася займацца роднымі дурніцамі, скажу табе яшчэ раз: для маёй навуковай і літаратурна-філязоўскай працы якую я цяпер пішу зарабляючы сябе на жыцьцё фізічнай працай чарнарабочай я мушу заставацца тут, у Эйропе. Магчыма паеду ў Францыю, а можа і ў Амерыку, каб там знайсьці падхадзячую працу, бо цяжка тут знайсьці працу, шмат беспрацоўных. Але не ў Менск, ні ў Вільню пры існуючых абставінах не паеду. Крывіць душой, падлыжнікам быць я не ўмею і не магу. Успомні Палуяна і яго трагічную сьмерць у Кіеве, чаму ён так паступіў? Мой прыезд у Менск — хадзіць, прасіць, кланяцца розным паршыўцам каб далі візу, зракацца сябе, о лепей уж тады пайці шляхам Палуяна! Так і знай, гэта мае апошняе слова. Я бо прыеду ў Менск як вольны грамадзянін, або застануся на чужыне на ўсё жыцьцё свае эмігрантам. Можа быць хто небудзь, калі небудзь найдзе мае каштоўныя рукапісі, прачытае, знойдзе магчымасьць іх выдаць. Працую для будучых пакаленьняў, больш сьвядомых і чэсных, шчасьлівейшых за мяне. Бывай здарова. ТАМАШ».

Дата не пазначаная, але можна меркаваць, што гэта май ці чэрвень дваццаць шостага, і што Купала, прачытаўшы гэты ліст (вядома, з рук Мядзёлкі), напісаў свой верш «І прыйдзе»,— пад уражаннем...

«І прыйдзе новых пакаленняў...» Параўнайце: «Можа быць хто небудзь, калі небудзь», «Працую для будучых пакаленьняў»...

«У сведкі запісы пакліча...» Параўнайце: «...найдзе мае каштоўныя рукапісі, прачытае, знойдзе магчымасьць іх выдаць»...

Верш наскрозь працяты болем Грыба. Разам з тым, у ім — Купалаў боль, Купалаў сорам і Купалава трывога.

«І засумуецца патомак, калі даізнаецца аб нас...»

Калеснік піша: «Паміж гэтымі двума этапамі стаяла самая страшная Паўлініна Галгофа — савецкая, калі Мядзёлцы даводзілася даказваць нашпігаваным падазронасцю і нянавісцю следчым, што яна ад пачатку 20-х гадоў не мела ніякай сувязі з Тамашом Грыбам, на якім савецкая ідэалогія паставіла таўро ворага, які мог быць і змоўнікам ды прапанаваць ёй супрацоўніцтва».

Ды не магла яна не ведаць, любая Калесніку ды Марціновічу «Паўлінка-журавінка», што адпраўленыя ёю тэлеграма і пісьмо з СССР у Прагу ГПУ абавязкова прачытала і занесла ў яе справу. І адказ ёй з Прагі там таксама ёсць. І хто ёй прапаноўваў «супрацоўніцтва» — Тамаш ці ГПУ — яна таксама ведала (не разумею, чаму Калеснік абрэвіятуру ГПУ перарабляе скрозь на ДПУ).

Не следчых спрабавала падмануць Мядзёлка,— ёй бы гэта не ўдалося. Пішучы свае ўспаміны, яна скрозь імкнецца падмануць Гісторыю. Калеснік, Марціновіч, Вераціла — ёй паверылі.

Калеснік піша пра Мядзёлку: «Птушка ў клетцы». А Гісторыя на клетку пачапіла шыльдачку: «Што це за птиця», як казалі некалі героі аднайменнай украінска-беларускай інтэрмедыі.

Георгій КОЛАС.

